

Вестi й Паведамленьнi

інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"

Viestki j Paviedamleńni

Электронны адрас: viestki@mail.com
P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735

№ 8 (702)
Жнівень 2024 г.

# 100-годзьдзе з дня нараджэньня Васіля Быкава

У суботу, 29 чэрвеня 2024 году ў Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне прайшло адзначэньне 100-годзьдзя з дня нараджэньня выдатнага беларускага пісьменьніка, публіцыста і грамадзкага дзеяча Васіля Быкава.

Як вядома, Васіль Быкаў нарадзіўся 19 чэрвеня 1924 году ў в. Бычкі Ўшацкага раёну, скончыў школу ў Кублічах, вучыўся ў Віцебскім Мастацкім Тэхнікуме і затым у рамесьленай вучэльні. Быў мабілізаваны на абарончаыя працы й апынуўся ўлыбі Расеі, дзе пасьля быў змабілізаваны ў савецкае войска, скончыў вайсковую вучэльню і браў удзел у баях ва Ўкраіне. Падчас баёў пад Кіраваградам быў паранены і памылкова трапіў у сьпісы загінуўшых, а ягонае імя было запісана на помніку на агульнай магіле. Ён браў удзел у вызваленьні шэрагу краінаў Усходняй Эўропы і пасьля дэмабілізацыі ў 1947 годзе два гады працаваў у рэдакцыі "Гродзенскай праўды", а затым быў зноў мабілізаваны ў войска і служыў да 1955 году на Далёкім Усходзе. Пасьля пачаўся ягоны плённы творчы пэрыяд жыцьця ў Горадні. У гэтым горадзе пісьменьнік напісаў свае аповесьці "Жураўліны крык", "Мёртвым не баліць", "Альпійская баляда", "Сотнікаў", "Воўчая зграя".

У 1978 годзе Васіль Быкаў пераехаў у Менск, браў удзел у працы Саюзу пісьменьнікаў, быў абраны ў Вярхоўны Савет БССР. У Менскі пэрыяд былі напісаныя ягоныя творы "Знак бяды", "Кар'ер", "У тумане", "Аблава" і шэраг іншых. У 1980 годзе атрымаў званьне народнага пісьменьніка Беларусі. У другой палове 1980-х гадоў Васіль Быкаў актыўна далучыўся да беларускага нацыянальнага руху, браў удзел у стварэньні арганізацыі "Мартыралёг Беларусі" і Беларускага Народнага Фронту, а пазьней – Партыі БНФ. Падчас прэзыдэнцкіх выбараў 1994 году быў даверанай асобай кандыдата Зянона Пазьняка. Выступаў супраць палітыкі Лукашэнкі й супраць прарасейскіх пагадненьняў аб інтэграцыі. З 1998 году жыў на эміграцыі ў Фінляндыі, Нямеччыне і Чэхіі. У 2002 годзе выйшла ягоная апошняя кніга-мэмуар "Доўгая дарога дадому". У 2003 годзе Васіль Быкаў вярнуўся ў Беларусь і памёр 22 чэрвеня, у апошні шлях яго праводзілі каля 40 тысяч суайчыньнікаў. Пахаваны на Ўсходніх могілках у Менску. Творы Васіля Быкава перакладзеныя на 23 мовы, а ягонае імя цяпер стала сымболем змаганьня супраць таталітарызму. У сёнешняй Рэспубліцы Беларусі асоба і творчасьць Васіля Быкава замоўчваюцца і выключаюцца са школьных праграмаў, але творы яго працягваюць выходзіць на эміграцыі.

Урачыстую імпрэзу адкрыла старшыня Галоўнай Управы БАЗА сп-ня Натальля Федарэнка. Яна прывітала прысутных і падкрэсьліла, што асоба і творчасьць Васіля Быкава застаецца надзвычай важнымі сёньня і вылучаюцца сваёй велічынёю і значнасьцю. Быкаў хацеў бачыць Беларусь вольнай, дэмакратычнай і сапраўды беларускай краінай і рабіў для гэтага ўсё што мог, і таму ягоную памяць мы адзначаем сёньня.

Затым сп-ня Федарэнка передала слова рэжысэру імпрэзы сп-чні Настасьсі Харкевіч. Яна адкрыла імпрэзу, сказала, што добра, калі памяць вялікага пісьменьніка прыйшло ўшанаваць гэтулькі людзей, і дала слова сп-ні Ганьне Сурмач, колішняй кіраўніцы Згуртаваньня Беларусаў Сьвету "Бацькаўшчына" і цяперашняй сябры Рады БНР.

Ганна Сурмач распавяла, чаму для яе важная асоба Васіля Быкава, успомніла як упершыню прачытала "Альпійскую баляду": "Аповесьць друкавалася з працягам у "Гродзенскай праўдзе", і гэты твор захапіў зь першых радкоў. Спадабаўся і сюжэт, і прыгожая мова. І таксама аповесьць выклікала роздумы, што беларусы жывуць ня толькі ў Беларусі, і як і чаму іх раскідала па сьвеце". Затым, ужо значна пазьней, была сустрэча ў Чырвоным касьцёле ў Менску, калі ён яшчэ быў "Домам кіно", сядзібай Саюзу кінематаграфістаў. У краіне-

заканчэньне на бачыне 4



# Тыдзень Паняволеных Народаў

Месяц ліпень у ЗША – гэта час правядзеньня Тыдня Паняволеных Народаў, які пачынаецца ў нядзелю напачатку трэцяга тыдня месяцу, і сёньня гэтай традыцыі спаўняецца ўжо 65 год.

У ЗША Тыдзень Паняволнеых Народаў – гэта шэраг імпрэзаў, што скіраваныя на прыцягненьне ўвагі амэрыканскай грамадзкасьці да становішча народаў, якія знаходзіцца пад прыгнётам камуністычных, посткамуністычных ды ўсіх іншых тыраніяў і дыктатураў. Сёньня, калі адбываецца паскораная палярызацыя сьвету па прынцыпе падтрымкі або адкіданьня прынцыпаў дэмакратыі, свабоды і правоў чалавека, правядзеньне Тыдня Паняволеных Народаў набывае новы, яшчэ актуальнейшы сэнс.

Пасьля таго, як у сярэдзіне 1940-х гадоў на Эўропу і сьвет апусьцілася жалезная заслона, што падзяліла кантынэнт на дзьве часткі й запачаткавала эпоху Халоднай вайны, падтрымка народаў, што былі паняволеныя расейскім камунізман стала часткай змаганьня супраць савецкай камуністычнай дамінацыі сьвету. Гэтая барацьба была складанай не толькі дзеля гонкі ўзбраеньняў і пагрозы ядзернай вайны, але і найперш дзеля таго, што савецкая камуністычная прапаганда мела пэўны посьпех у сваіх хлусьлівых спробах заваяваць давер і падтрымку сярод элітаў Вольнага Сьвету. “Барацьба за мір”, “забясьпечаньне ўсіх патрэбаў працоўных”, “бясплатная мэдыцына і адукацыя”, “падтрымка змаганьня супраць каляніялізму” сапраўды ачмурылі галовы шматлікім акадэмікам, пісьменьнікам, журналістам і палітыкам на Захадзе. Пад тым жа соўсам Саветы даводзілі, што камуністычны блёк – гэта дабраахвотная лучнасьць вольналюбівых народаў, якія з энтузіязмам раўняюцца на Маскву.

Каб супрацьстаяць гэтым камуністычным прапагандысцкім фальсыфікацыям і аб’яднаць намаганьні прадстаўнікоў паняволеных народаў у Вольным Сьвеце і Амэрыцы, і быў створаны Камітэт Паняволеных Народаў, што заняўся правядзеньнем Тыдня Паняволеных Народаў.

Сам Тыдзень Паняволеных Народаў быў запачаткаваны ў 1959 годзе праз адмысловы урадавы закон-загад прэзыдэнта Дуайта Айзэнгаўэра, які пасьля быў зацьверджаны Кангрэсам ЗША як грамадзкі закон. Гэты закон дзейсны і цяпер, і зь ягонай дапамогай Тыдзень Паняволеных Народаў зрабіўся месцам і нагодай для выказваньня пратэсту супраць расейскага камуністычнага імпэрыялізму, і супраць злачынных рэжымаў у Эўропе, Азіі, Лацінскай Амэрыцы і ў Кітаі, што знаходзіліся пад савецкім уплывам.

Для ажыцьцяўленьня і каардынацыі імпрэзаў Тыдня Паняволеных Народаў і наагул усёй працы, скіраванай на дапамогу паняволеным народам, быў створаны адмысловы Камітэт Паняволеных Народаў. Ягонымі стваральнікамі былі эмігранцкія арганізацыі з Эўропы й Азіі ў ЗША, і ў тым ліку арганізацыі беларускія. Цягам доўгіх гадоў камуністычнага панаваньня і ажно да сапраўды народных рэвалюцыяў пачатку 1990-х гадоў, прадстаўнікі эміграцыйных арганізацыяў народаў, якія былі паняволеныя расейскім камунізмам: альбанцаў, эстонцаў, мадзяраў, народаў Паволжа, Уралу і Каўказу, сэрбаў, украінцаў, латышоў, славакаў, баўгараў, чэхаў, палякаў, казакоў, харватаў, летувісаў, тыбэтцаў, віетнамцаў ды іншых – ладзілі вялікія сумесныя мітынгі перад савецкімі і “народна-дэмакратычнымі” дыпляматычнымі й гандлёвымі прадстаўніцтвамі, праводзілі пікеты, распаўсюджвалі інфармацыю, працавалі з сэнатарамі й кангрэсмэнамі, кансультавалі прадстаўнікоў прэзыдэнцкіх адміністрацыяў.




У выніку Халодная вайна была выйграная і, здавалася, што наступіў канец гісторыі, уся плянэта мелася зрабіцца Вольным Сьветам, што дэмакратыі няма альтэрнатывы. Але даволі хутка аказалася, што вакуум, створаны каляпсам Савецкага саюзу, стаў запаўняцца антыдэмакратычнымі рэжымамі кшталту ісламістаў Ірану, камуністаў Кітаю і Паўночнай Карэі, шызафрэнічных сацыялістаў Вэнэсуэлы й Нікарагуа.

І цяпер, калі постсавецкая шавіністычная Расея з дапамогай прарасейскага рэжыму Лукашэнкі пачала агрэсію супраць Украіны, увесь антыдэмакратычны сьвет, ад Ірану і Кітаю да Кубы і Вэнэсуэлы, стаў яднацца у аказаньні дапамогі расейскай агрэсіі. Між тым ва ўсіх гэтых краінах ёсьць даволі ўплывовыя рухі й асобы, што выступаць супраць рэжымаў, якія паняволілі іхныя грамадзтвы, і шмат з тых людзей апынуліся на выгнаньні, у тым ліку і ў ЗША. Гісторыя паўтараецца, і цяпер да змаганьня мусяць далучацца новыя ўдзельнікі.

У ліку заснавальнікаў Камітэту былі і беларускія грамадзкія арганізацыі Амэрыкі. Пад кіраўніцтвам Камітэту Паняволеных Народаў, на працягу дзясяткаў гадоў, на кожны трэці тыдзень ліпеня Нью-Ёрк пераўтвараўся ў пляцоўку для масавых дэманстрацыяў і публічных акцыяў прадстаўнікоў усіх краінаў Усходняй Эўропы і Азіі, якія падпалі пад камуністычнае іга. Так, адным з гістарычных мерапрыемстваў Тыдня была дэманстрацыя каля Статуі Свабоды ў 1976 годзе, на 200-годзьдзе ЗША. А ў 1988 годзе, да 30-й гадавіны Тыдню, у ягоных падзеях узяў удзел прэзыдэнт ЗША Рональд Рэйган. У сваёй прамове ён сказаў: “Сябры, паверце, Амэрыка ніколі не забудзецца на пакуты паняволеных народаў па ўсім сьвеце! Мы ніколі не перастанем казаць праўду. Вашае змаганьне ёсьць і нашым змаганьнем. Вашая мара ёсьць – і нашай марай. І аднойчы вы пераможаце, аднаго дня вы зробіцеся вольныя!” І сапраўды, прароцтва Р. Рэйгана збылося.

Беларускія арганізацыі штогод бралі актыўны ўдзел у імпрэзах Тыдня Паняволеных Народаў, і асабліва вылучалася Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне, а з 2012 году гэты ўдзел перайшоў пераважна да Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня”.

Вось ужо шэраг гадоў не відаць на імпрэзах Тыдню прадстаўнікоў тых усходнеэўрапэйскіх ды азіяцкіх арганізацыяў, што некалі задавалі тон. А там дзе няма ўплываў тых нацыяў, зьяўляюцца іншыя ўплывы – кітайскія, расейскія, іранскія, у тым ліку тут у ЗША. Не дарма, нажаль, амаль усе краіны дый грамадзяне ў Лацінскай Амэрыцы падтрымліваюць расейскую агрэсію. Хібнае разуменьне ЗША як ворага, ачмурэньне камуністычным утапізмам, што дае простыя адказы на складаныя пытаньні – гуляюць на руку пуцінскаму рэжыму. І тут, канешне, прыдаўся б унёсак антыкамуністычнага сэгмэнту лацінаамэрыканскай іміграцыі, але гэта патрабуе сур’ёзных намаганьняў і веданьня той іміграцыі.

Пакуль жа застаецца нагадаць, што на працягу апошніх амаль 30 год асноўнымі ўдзельнікамі Маршаў Паняволеных Народаў былі менавіта беларусы. Нажаль, сёлета ў выніку нескардынаванай дзейнасьці па здабыцьці патрэбных дазволаў Марш у Нью-Ёрку не адбыўся. Але ў Вашынгтоне 11 ліпеня адбыўся Саміт Паняволеных Народаў-2024, дзе бралі ўдзел і беларускія прадстаўнікі, а Сьвятлана Ціханоўская дала эксклюзіўнае інтэрвію па тэме дыктатуры ў Беларусі і шляхах выхаду краіны на дэмакратычны шлях.

**Віталь ЗАЙКА**

# Адкуль і калі пачалася зьмену клімату

Паважаны вучоны Дэметрыс Кутсаяніс, заслужаны прафэсар гідралёгіі і аналізу гідрасыстэм Афінскага нацыянальнага тэхнічнага ўнівэрсытэту, нядаўна апублікаваў артыкул у прэстыжным часапісе *MDPI*, дзе гаворыць, што канцэнтрацыя "вугляроду" на Зямлі ня мае да людзей і іхняй дзейнасьці ніякага дачыненьня. Ён тлумачыць, што "павелічэньне канцэнтрацыі $CO_2$ у атмасфэры і азеляненьне Зямлі выклікана нядаўнім пашырэньнем больш прадуктыўнай біясфэры", што "прывяло да натуральнага ўзмацненьня вугляроднага цыклю з-за павышэньня тэмпэратуры."

А як наконт "забойчага" аргумэнту, што цяперашняе пацяпленьня не зьяўляецца натуральнай тэндэнцыяй, а выклікана спальваннем людзьмі вуглевадародаў? Куцаяніс лічыць такі антрапагенны ўдзел як "непрыкметны".

Высновы Куцаяніса пераклікаюцца з нобелеўскім ляўрэатам 2022 году па фізыцы доктарам Джонам Клаўзэрам, які сказаў у дакумэнтальным фільме "Клімат: фільм": "Я сьцьвярджаю, што паміж зьменаю клімату і $CO_2$ няма ніякай сувязі – на мой погляд, усё гэта поўная лухта."

Дасьледаваньне, апублікаванае ў часапісе *Remote Sensing*, вывучыла спадарожнікавыя дадзеныя NASA, якія паказалі, што з 2000 па 2011 гады атмасфэра Зямлі вылучала значна больш цяпла, чым прагназавалі кампутарныя мадэлі.

"Дасьледаваньне паказвае, што глябальнае пацяпленьне будзе значна меншым, чым прадказвалі кампутарныя мадэлі ААН, і пацьвярджае папярэднія дасьледаваньні, якія паказваюць, што павелічэньне колькасьці вуглякіслага газу ў атмасфэры затрымлівае значна менш цяпла, чым сьцьвярджалі панікёры", – гаворыцца ў артыкуле *Forbes*.

"Назіраньні сьведчаць, што падчас і пасьля пацяпленьня ў космас губляецца нашмат больш энэргіі, чым паказваюць кліматычныя мадэлі", – сказаў суаўтар дасьледавання доктар Рой Спэнсэр, галоўны навуковы супрацоўнік Унівэрсытэта Алябамы ў Гантсьвіле (UAH). "Для доўгатэрміновых зьменаў клімату дасьледаваньне можа паказаць, што клімат менш адчувальны да пацяпленьня з-за павышэньня канцэнтрацыі вуглякіслага газу, чым казалі спэцыялісты па мадэляваньні".

Пазьнейшае дасьледаваньне Ўнівэрсытэта Дзюка прадказала, што будучыя ваганьні глябальных тэмпэратураў, верагодна, будуць вынікам натуральных варыяцыяў, паўтараючы назіраемы цыкль у дадзеных, прааналізаваных дасьледчыкамі. Дасьледаваньне, заснаванае на запісах тэмпэратуры за 1000 гадоў, сьведчыць, што глябальнае пацяпленьне не прагрэсуе так хутка, як гэта было б пры самых сур'ёзных сцэнарах выкідаў, апісаных Міжурадавай групай экспэртаў па зьмене клімату (МГЭЗК)", – гаворыцца ў рэзюмэ дасьледаваньня.

"Статыстычна малаверагодна, што 11-гадовы перапынак у пацяпленьні, падобны на той, які мы назіралі ў пачатку гэтага стагодзьдзя, адбудзецца, калі пацяпленьне, выкліканае чалавекам, разьвівалася з такой жа хуткасьцю, як і самыя жорсткія прагнозы IPCC", – сказаў дасьледчык Патрык Т. Браўн.

Магчыма, таму тэмпэратура Зямлі зьнізілася з моманту дасягненьня свайго піку ў 1997 годзе. На дзейнасьць чалавека прыпадае толькі каля 0,25% усяго $CO_2$ у атмасфэры. І многія навукоўцы заклікаюць прызнаць, што дзейнасьць чалавека, не паўплывае на тэмпэратуру атмасфэры.

Экалёгія – гэта новая "фішка" сацыялістаў і тых, хто імкнецца зьнішчыць капіталізм і свабоду. Але як мы дайшлі да таго, што ілжывая навука рухае вялікія ўрады і эколягаў, якія прагнуць грошай?

Заснавальнік Weather Channel Джон Коўлман пісаў у 2009 годзе: "Гісторыя пачынаецца з акіянаграфіі з імём Роджэр Рэвэль. Ён служыў на флёце падчас 2-й сусьветнай вайны. Потым ён стаў дырэктарам Акіянаграфічнага інстытуту Скрыпса ў Ла-Гойя ў Сан-Дыега, Каліфорнія.

"Рэвэль убачыў магчымасьць атрымаць фінансаваньне ад ВМС для дасьледаваньняў акіяна вакол ціхаакіянскіх атолаў, дзе амэрыканскія вайскоўцы праводзілі выпрабаваньні атамнай бомбы. Ён значна пашырыў сфэру інтарэсаў Інстытута і, сярод іншага, наняў вядомага хіміка Ганса Зюса, які вельмі цікавіўся сьлядамі вугляроду ў навакольным асяродзьдзі ў выніку спальваньня выкапнёвага паліва, падключыўся да дасьледаванняў Зюса і напісаў зь ім артыкул у 1957 годзе, заявіўшы, што вуглякіслы газ можа ствараць парніковы эфэкт і выклікаць пацяпленьне атмасфэры". Падобна на тое, што Рэвэль больш за ўсё думаў пра фінансаваньне.

"Потым Рэвэль наняў геахіміка Дэвіда Кілінга, каб распрацаваць спосаб вымярэньня ўтрыманьня вуглякіслага газу ў атмасфэры. У 1960 годзе Кілінг апублікаваў сваю першую працу, у якой паказвае павелічэньне ўтрыманьня вуглякіслага газу ў атмасфэры і зьвязвае гэта са спальваннем выкапнёвага паліва".

"Гэтыя дзьве дасьледчыя працы сталі асноваю навукі аб глябальным пацяпленьні хоць і не давалі доказаў таго, што вуглякіслы газ сапраўды зьяўляецца парніковым. Акрамя таго, яны не змаглі растлумачыць, як гэтыя сьляды газу, толькі малюсенькая частка атмасфэры, могуць істотна паўплываць на тэмпэратуру".

Гэтыя працы заклалі аснову для інфраструктуры Міжурадавай групы экспэртаў ААН па зьмене клімату (IPCC), забясьпечылі прыродаахоўны рух сродкам барацьбы супраць выкапнёвага паліва, давялі СМІ да шаленства, калі яны пастаянна папярэджваюць чалавецтва аб непазьбежным канцы сьвету, і выцягваюць трыльёны дзяржаўных і карпаратыўных даляраў на пашырэньне падману аб пацяпленьні і змаганьні зь ім.

Няважна, што пазьней, у 1988 г., Рэвэль напісаў два папераджальныя лісты ў Кангрэс, у якіх сьцьвярджаў: "Маё асабістае перакананьне ў тым, што мы павінны пачакаць яшчэ 10-20 гадоў, каб сапраўды пераканацца, што парніковы эфэкт будзе мець важнае значэньне для чалавека. ...Мы павінны быць асьцярожнымі, каб не выклікаць зашмат трывогі, пакуль хуткасьць і колькасьць пацяпленьня ня стануць больш відавочнымі".

Адстаўны фізык НАСА Хэл Дойран сказаў, што новыя кліматычныя прагнозы ня могуць быць дакладнымі, пакуль абапіраюцца на прапагандысцкія дадзеныя, сабраныя прыхільнікамі глябальнага пацяпленьня. "NASA мае палітыку: вы не прымаеце рашэньне аб канструкцыі касьмічнага карабля або ракеты, якія не прайшлі праверку", – сказаў ён. "Вы не прымаеце крытычныя рашэньні, грунтуючыся на сумніўных дадзеных". Тым ня менш, урады робіць гэта ў дачыненні да кліматычнай трывогі, бо занадта шмат навукоўцаў ва ўнівэрсытэтах пішуць працы, робячы высновы з мадэляў, якія не адпавядаюць фізычным дадзеным".

"Навукоўцы па клімаце" і экалягічныя актывісты дзесяцігодзьдзямі цьвердзілі нам, што чалавецтва знаходзіцца на мяжы выміраньня, выкліканага тэхнагенным глябальным пацяпленьнем. Па іхных прагнозах жыхары акіянскіх узьбярэжжаў павінны ўжо жыць пад вадою, а іншыя тэрыторыі стаць непрыдатнымі для жыцьця.

І хоць гэта аказалася няпраўдай, але для ўладу маючых людзей, "ратаваньне Зямлі" шляхам скарачэньня выкідаў вугляроду і кліматычнай актыўнасьці мае важнае значэньне, бо пашырае іхныя паўнамоцтвы, уплыў і ўладу

На жаль, амэрыканцы пачынаюць верыць, што глябальная зьмена клімату справакаваная чалавекам. Праўда тут у тым, што толькі адна частка гэтай праблемы створана чалавекам, – гэта крадзёж мільярдаў інвэстыцыйных даляраў для выплаты заробкаў "экаспэцыялістам" і пашырэньня гэтай афёры.

***Б. Л.***

## 100-годзьдзе В. Быкава

*заканчэньне з бач. 1*

імпэрыі СССР адбывалася перабудова, у рэспубліках Балтыі, ва Ўкраіне, у Закаўказьзі былі створаныя народныя рухі, што сталі змагацца за вяртаньне зь нябыту рэпрэсаваных у 1930-я—1950-я гады, а потым і за дзяржаўную незалежнасьць. Пытаньне пра стварэньне нацыянальнага руху насьпела і ў Беларусі. Камуністы спрабавалі ачоліць гэты працэс і даслалі на паседжаньне аргкамітэту “Мартыралёгу Беларусі” сваіх прадстаўнікоў, у тым ліку функцыянэра ЦК КПБ Бузука, які стаў прапаноўваць свае кандыдатуры. Але тут сытуацыю ўратаваў Васіль Быкаў, які завалодаў мікрафонам і прапанаваў у кіраўніцтва Зянона Пазьняка. Далей сход вёў Зянон Пазьняк, які затым прапанаваў стварыць Беларускі Народны Фронт. Так пачыналася афармленьне незалежніцкіх настрояў у палітычны рух, важны крок у змаганьні за сувэрэнітэт здавалася б цалкам саветызаванай рэспублікі. “Помніцца што тады ўсе выходзілі ўзьнёслыя, шчасьлівыя. Гэта быў 1988 год. Але калі трэба было правесьці ўстаноўчы зьезд БНФ, яго забаранілі, нават Вярхоўны Савет прыняў пастанову. Але атрымалася дамовіцца зь летувіскім рухам “Саюдзіс”, і зьезд прайшоў у Вільні 25-26 чэрвеня 1989 году. І менавіта ў тыя часы Васіль Быкаў сфармаваўся як нацыянальны грамадзкі дзеяч. Затым былі сустрэчы ў Празе, калі праходзіў Тыдзень беларускай культуры. Акурат тады мы дабіліся згоды чэхаў на ўсталяваньне ў Празе помніка Францішку Скарыну. Успамінаецца таксама, як разам працавалі ў Згуртаваньні “Бацькаўшчына”, Быкаў стаў яе першым прэзыдэнтам і браў удзел у падрыхтоўцы Першага зьезду Беларусаў Сьвету. Дзяржава, ужо намінальна беларуская, але якой запраўлялі былыя камуністычныя функцыянэры, паспрабавала падпарадкаваць эміграцыю, плянавалі падрыхтаваць нават перадачу ў РБ крэдэнцыяў Рады БНР. Міністар замежных справаў Краўчанка хацеў адкрываць зьезд, які праходзіў у Опэрным тэатры, але Быкаў, што знаходзіўся ў прэзыдыюме, сеў каля мікрафону, я села побач, і так доступ да мікрафону быў кантраляваны нацыянальнымі сіламі. І той зьезд адкрываў Васіль Быкаў, а не былыя камуністы. Эміграцыя стала гарнуцца да нас, пайшло супрацоўніцтва. Але празь некалькі год Быкаў выехаў у Фінляндыю, а мне давялося пераехаць у Чэхію. Пачаўся новы пэрыяд працы”.



Затым на сцэну выйшлі ўдзельнікі тэатралізаванай імрэзы-чытаньня ўспамінаў пра Васіля Быкава. Успаміны пра Васіля Быкава пачаліся чытаньнем тэксту сястры пісьменьніка Валянціны Быкавай “Вася, Васілёк, Васіль” у выкананьні Настасьсі Харкевіч. Васіль шмат чытаў, выдаваў у школе сьценгазэту, быў заўсёды таварыскі, прыязны, цікавіўся справамі сястры, змайстраваў ёй цудоўную ляльку, пачаў пісаць кароткія вершыкі, апавяданьні. Вучыўся пасьля ў Віцебску. Вайной цэлы час думалі пра яго, і вось хутка пасьля вяртаньня Саветаў атрымалі паведамленьне, што ён загінуў. Але неўзабаве прыйшоў ліст ад самога Васіля.

Затым з чытаньнем успаміну мастака Леаніда Шчамялёва “Непрыгладжаны, непаўторны” выступіў сп. Мікіта Манаенкаў. Сам мастак Шчамялёў пісаў партрэт Быкава, і яны сыйшліся як былыя франтавікі, а стварэньне партрэту шмат дадало да разуменьня характару і творчасьці Васіля Быкава.

Нататку ўкраінскага пісьменьніка Ўладзімера Яварыўскага “Дотык пляча” пра часы, калі прыйшла да ўкраінцаў і беларусаў супольная бяда Чарнобылю, прачытаў сп. Філіп.

Сп-ня Ірына Ляшко прачытала ўспаміны Зіны Гімпелевіч “Сьмерці няма”, у якіх дасьледчыца творчасьці Васіля Быкава і аўтарка адзінай манаграфіі пра пісьменніка па-ангельску распавядае пра свае сустрэчы й размовы зь пісьменьнікам.

Сп. Сяргей Ляшко прачытаў нарыс Рыгора Барадуліна пра свайго земляка Васіля Быкава “Сам-насам зь вечнасьцю”.

Увесь гэты час на сцэне мастачка Вольга Барынец малявала партрэт Васіля Быкава, які быў гатовы пад канец імпрэзы і атрымаўся вельмі ўдала.

Сп-ня Тацяна Красоўская падзялілася сваімі ўражаньнямі аб творчасьці Васіля Быкава.

Затым сп-чня Настасься Харкевіч правяла віктарыну-квіз пра Васіля Быкава, прыводзіліся ягоныя выказваньні пра задачу чалавека ў жыцьці, пра сваю мову, пра тое, што “Порахам чалавека ня выхаваеш”, і што “кожнаму наканавана прайсьці свой шлях да свабоды асобна”.

Сярод выказваньняў Васіля Быкава, што застаюцца надзвычай актульнымі: “Толькі пры свабодзе і незалежнасьці Беларусь можа мець будучыню”, і “Ўсімі даступны спосабамі трэба змагацца за родную мову”.

Імпрэза прайшла надзвычай цікава, удзельнікі зрабілі агульны здымак, і мелі нагоду далей калегавацца зь землякамі за пачастункамі і кавай.

***Віталь ЗАЙКА***

**Уплаты ў Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:**
***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***
**Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня “Пагоня” *Viktar Yedzinovich.***

**Уплаты ў Згуртаваньне**
**Складкі й ахвяраваньні:**

**М. Макарчык ............60**

**Шчыры дзякуй!**

**Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні* :**

**М. Макарчык ............30**
**Усім шчыры дзякуй!**